Нумары: Маладосць і сталасць | Лёс „Прасторыуса" | Кансервавая казка

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 28 (437) | ГОД IX | 12 ЛІПЕНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.

# А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ

Калі стала вядома, што Беларускі народны ансамбль песні і танца з Мінска пад мастацкім кіраўніцтвам народнага артыста Генадзя Іванавіча Цітовіча прыедзе ў Беласток, сталі наведваць людзі «Ніву» і ГП БГКТ з просьбай дапамагчы набыць білеты. Зацікаўленне было надзвычай вялікае. Асабліва з боку беларускага насельніцтва як з Беластока, так і з вёсак. Літаральна за некалькі дзён білетаў нельга было ўжо дастаць.

І вось савецкія артысты на сцэне тэатра імя Аляксандра Вянгеркі. Выступаюць салісты, выступаюць жаночая і мужчынская групы, а таксама балет ансамбля Бурнымі апладысментамі ўзнагароджваюць прысутныя кожны нумар праграмы. А некаторыя песні і танцы на жаданне гледачоў артысты выконваюць па два разы. Высокім мастацкім узроўнем, багатай праграмай, прыгожымі народнымі ўборамі беларускі ансамбль песні і танца ачараваў гледачоў.

## АНСАМБЛЬ ПЕСНІ І ТАНЦА Ў ГП БГКТ

Мы з асаблівым задавальненнем і радасцю падкрэсліваем той факт, што паважаныя госці з Мінска цікавіліся працай Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Польшчы, што цікавіліся яго мастацкім калектывам і эстрадай «Лявоніха». Генадзь Іванавіч Цітовіч правёў прафесіянальную гутарку з нашай эстрадай. А Пётр Сяргеевіч Акулёнак зрабіў для нас вельмі многа — паставіў адзін танец для балетнай пары "Лявоніхі». Увесь ансамбль песні і танца пасля аднаго з канцэртаў наведаў памяшканне ГП БГКТ. Тут пры чорнай каве адбылася сустрэча ўдзельнікаў ансамбля з актывам БГКТ. На гэтай вечарыне шчыра і выразна выявілася наша братэрства, якое адчувалася ва ўсім: і ў кароткіх прамовах кіраўніка дэлегацыі, прадстаўніка Міністэрства культуры БССР Міхаіла Міхайлавіча Коласа, і ў кароткім выступленні Генадзя Іванавіча Цітовіча і ў сяброўскіх гутарках актыву БГКТ з госцьмі з Мінска.

Тут жа на сцэне таварыства адбыўся невялікі канцэрт. Харавыя групы — жаночая і мужчынская, а таксама паасобныя артысты з ансамбля Г. І. Цітовіча выканалі па некалькі песень, якія не ўвайшлі ў праграму канцэрта ў Польшчы. Выступалі таксама з песнямі некаторыя члены эстрады «Лявоніха».

(Працяг на стар. 3)



Выступае балетная група ансамбля

# ДАВАЙЦЕ СПРАЎЛЯЦЬ

У цэню зубкоўскіх ганкаў слухаў я пра Каладзяжанку. Так завуць наваколны абшар лугоў — роўных, буйных, цалкам меліяраваных. Даўным - даўно расла адна дзікая трава, асака. Кірыл Цішэўскі трымае сваё сена ў абарогу на панадворку. «Калісьці не меў нават і паловы таго», — гаворыць ён.

Падобныя словы, пэўна, пачуў бы і ад Дзімітра Талуця з Зубрах ці Ёзіка Галашэўскага ў Вераб'ях.

Каладзяжанка паказала беднай аколіцы вялікі сэнс меліярацыі.

У Вераб'ях не адзін Галашэўскі адчуў яе дабрадзействы, але не ўсе. А хочуць мець усе чым хутчэй, зараз! Паказвалі мне чорныя квадраты сярод зялёнай нізіны ля баброўніцкай шашы.

— Бачыце, як робіцца?! — сказалі са злосцю.

Я не зразумеў, у чым справа? Узяліся тлумачыць напярэбіўкі.

— Трактарыст, той ад меліярацыі, перастаў браць «у лапу», асцярожным зрабіўся, прыдзірлівым. Знайшлі, відаць, іншы спосаб падысці яго...

З доўгіх вывадаў урэшце разабраўся, што ён цяпер меліруе лугі ў Зляёнай. Там, ого, здольней прыманілі гэтага дабрадзея. Сюды, у Вераб'і заглядае наездам, крыху «папсуе квадратаў» і зноў едзе туды...

— Паліць непатрэбна бензін на праезды, марнуе час — хай ужо ў адным месцы давёў бы ўсёнька да толку!

Значыць, у Вераб'ях, на вераб'ёўскіх лугах. Не ведаю чаму, адчуў я ў гэтых словах як бы нотку жалю, што зялёнаўскія гаспадары аказаліся спрытнейшымі...

(Працяг на стар. 4)

# СПРАВЫ МОЛАДЗІ

Аб тым, што моладзь ніколі не мела такіх магчымасцей авансу, навукі, добрага заработку, як у народнай Польшчы, усе хіба ведаюць. А моладзі ў нашай краіне многа. Большая частка нашых грамадзян — гэта маладыя грамадзяне.

Справам моладзі наша партыя заўсёды прысвячала многа ўвагі. І нічога дзіўнага. Маладому пакаленню, якое нарадзілася і выхавалася ва ўмовах народнай Польшчы, прыдзецца неўзабаве заступіць старэйшых на ўсіх пастах, прыдзецца яму ўзяць на сябе кіраўніцтва гаспадарчым і палітычным жыццём краіны.

Рэч у тым, што пакаленне гэтае не памятае часоў панавання буржуазіі, не мае магчымасці з уласнага вопыту параўнаць тое, што рабілася ў краіне да вайны, з сучаснай нашай рэчаіснасцю. І таму часта не разумее велізарных перамен, якія адбыліся ў краіне за апошнія 20 гадоў. Гэтыя вялікія дасягненні здаюцца часам нашай моладзі з'явамі такімі зразумелымі, нармальнымі і простымі, што яна не бачыць патрэбы змагацца за ўмацаванне нашай сацыялістычнай рэчаіснасці, што не хапае ёй неаднойчы таго энтузіязму барацьбы за сацыялістычныя ідэалы, якія характарызаваў папярэдняя пакаленні.

Каб не дапусціць да праяўлення гэтых адмоўных рысаў у нашай моладзі, патрэбна пастаянная выхаваўчая дзейнасць. Выхаваўчую працу з моладдзю вядзе школа, а таксама маладзёжныя арганізацыі: ЗМС (Саюз сацыялістычнай моладзі), ЗМВ (Саюз сялянскай моладзі) ЗГП (Саюз польскага гарцэрства), ЗСП (Саюз польскіх студэнтаў), КМВ (Гурткі вайсковай моладзі).

У дакладзе на IV З'ездзе ПАРП Уладзіслаў Гамулка ўказаў на шматлікія дасягненні арганізацый нашай моладзі. Усе вышэй указаныя арганізацыі налічваюць зараз у суме каля 3 мільёнаў членаў. Яны выпрацавалі ўжо шмат цікавых метадаў працы, развіваюць грамадскую ініцыятыву моладзі ва ўсіх галінах жыцця, прывіваюць ёй пачуццё адказнасці за паручаны адрэзак працы, патрэбу калектыўнага дзеяння. Гаворачы аб Саюзе сялянскай моладзі, Уладзіслаў Гамулка падкрэсліў дасягненні гэтай арганізацыі ў пашырэнні культуры і асветы на вёсцы, у прафесіянальнай падрыхтоўцы маладых сялян да працы на гаспадарцы.

У прамове Уладзіслава Гамулкі, як і ў пастановах IV З'езда ПАРП сцвярджаецца аднак, што маладзёжныя арганізацыі не павінны затрымоўвацца на асягнутых выніках сваёй дзейнасці, а наадварот, яны павінны пашыраць свае ўплывы на моладзь, фармаваць у моладзі ідэал новага чалавека, чалавека сацыялістычнай эпохі, гартаваць яе устойлівасць на ўплывы варожай прапаганды.

Дзейнасць паасобных маладзёжных арганізацый абымае паасобныя маладзёжныя асяроддзі: рабочае — ЗМС, вясковае — ЗМВ, вучнёўскае — ЗГП, студэнцкае — ЗСП і вайсковае — КМВ. Усе гэтыя арганізацыі дзейнічаюць пад ідэйным кіраўніцтвам партыі і адзінства маладога пакалення лічаць адным з асноўных сваіх прынцыпаў.

Уладзімір Паўлючук



Вёска Дабрыводы. Фота М. Хмялеўскага




К. Ляшчынскі: ТЭМПАМІ НАШАГА ЧАСУ.

М. Ільяшук: ФАКТЫ

Дзядзька Лявонь: НАРАДЖЭННЕ КЛУБА.

 

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# ЛЕС „ПРАСТОРЫУСА"

Дваццаць чалавек, зусім чужых сабе, атрымалі аднолькавыя пісьмы. Жылі яны ў розных месцах: некаторыя працавалі на ваенных заводах, другія ваявалі на Усходнім фронце, а адзін нават сядзеў у турме. Пісьмы былі без подпісу, паведамлялася ў іх, што рэдакцыя тыднёвіка «Каускаус», друкаванага для фронта, хоча правесці з імі інтэрв'ю. Таму павінны яны прыехаць ў Берлін, на кошт рэдакцыі.

З'ехаліся ў вызначаны дзень. На першы погляд, паміж гэтымі людзьмі не было нічога агульнага — розны век, розныя манеры, рознае паходжанне: настаўнік, барман, рабочы, студэнт, салдат... Нават палітычныя перакананні неаднолькавы: з дванаццаці ўсяго адзін быў членам фашысцкай партыі. Аднак усе яны праз некаторы час жылі ў Амерыцы, свабодна ўмелі гаварыць па-англійску.

Праз два дні пасля іх рэдакцыйны субяседнік нейкі Вальтэр Капэ завёз усіх у вялікі прускі замак. Тут Капэ выясніў, што ім прыдзецца адбыць спецыяльны курс. Настала райскае жыццё без турбот і клопатаў: слухалі лекцыі па эканамічнай геаграфіі Злучаных Штатаў Амерыкі, праходзілі абучэнне дыверсіі, штодзень бывалі на амерыканскіх фільмах. Адно, чаго дамагаўся Капэ — гэта забыць нямецкую мову, размаўляць між сабою толькі па-англійску. «Вучні», канешне, здагадаліся, што іх перакінуць у Амерыку. Але навошта?

У 1942 годзе стала ясна, што гітлераўскі «бліцкрыг» на Усходзе праваліўся: вайна з Савецкім Саюзам паглынае ўсе рэзервы Нямеччыны. Трэба было зрабіць усё, каб адцягнуць адкрыццё другога фронта ў Еўропе, пераканаць саюзнікаў у магутнасці ваеннага патэнцыяла Германіі. Нямецкая разведка задумала наладзіць некалькі велізарных выбухаў, напрыклад, у Нью-Йорку, з сотнямі або і тысячамі забітых — пасеяць паніку. Дыверсанты павінны высадзіцца пад Нью-Йоркам на Фларыдзе. Цэлае кіраўніцтва аперацыяй «Прасторыус» (так назвалі яе) даручана Дашу як самаму вопытнаму і добра абзнаёмленаму са Штатамі. На хустачках былі запісаны сакрэтным чарнілам адрасы нямецкіх агентаў у ЗША...

І так, без асаблівых цяжкасцей, Даш прыбыў у Нью-Йорк. Тым часам, Вальтэр Капэ атрымаў радыёграму ад капітана падводнай лодкі, які паведамляў, што высадка групы дыверсантаў адбылася шчасліва. Аперацыя «Прасторыус» пачалася.

Даш пасяліўся ў атэлі, выпіў кубак добрай кавы, момант капаўся ў тоўстым спісе тэлефонаў, затым пазваніў проста ў... ФБР (амерыканскі следчы орган).

— Я немец, — сказаў Даш. — Хачу паведаміць адну важную справу.

— Зайдзіце да нас праз тыдзень, — адказалі яму.

— Справа надта важная, — не адступаўся Даш. — Мне патрэбна бачыць шэфа ФБР містэра Гувера. Пазваніце яму ў Вашынгтон і перадайце, што прыбыў Прасторыус, запамятайце добранька прозвішча: Прасторыус. Я зараз жа еду туды.

Не кожнаму амерыканцу вядома, што Прасторыус — гэта прозвішча першага немца, які пасяліўся на амерыканскай зямлі некалькісот год таму назад.

Даш пазваніў у ФБР невыпадкова. Ён даўно рашыў, што шмат лепей будзе здрадзіць план аперацыі, прыкінуцца антыфашыстам і запрапанаваць свае ўслугі на новым месцы, чым рызыкаваць уласнай скураю. Познім вечарам Даш быў у Вашынгтоне, таксі прывезла яго ў гасцініцу «Мэйфлауэр». Спаць не мог. Ранкам пазваніў у ФБР, адазвалася сакратарка. Пасля доўгага тлумачэння злучыла яго з сакрэтным аддзелам.

— Я немец. Хачу заявіць аб арганізаваным загаворы.

— Так? — пачуўся недаверлівы голас. — А супроць каго?

— Супроць Нью-Йорка.

— На жаль, мы займаемся толькі асабістай бяспекаю прэзідэнта і фальшываманетчыкамі.

Даш узяўся званіць на іншы нумар, прадставіўся, папрасіў да тэлефона начальніка аддзела.

— Я немец, праціўнік расізма Гітлера...

— Мы не займаемся расізмам, — перапыніў яго далёкі голас у тэлефоннай трубцы і выключыўся.

Калі зноў пазваніў да сакратаркі, тая здзіўлена запытала:

— Каго вам, урэшце, трэба?

Пасля яшчэ аднаго доўгага тлумачэння злучыла яго з тэлефонам палкоўніка Крамера. У трубцы загаварыў мужскі голас:

— Гаворыць сакратар палкоўніка Крамера. У чым справа?

Даш ізноў, невядома каторы ўжо раз паўтарае свой расказ.

— Палкоўніка няма, ён снедае.

Але Даш з чыста нямецкай упартасцю стаў пераглядаць тоўсты спіс тэлефонных нумароў, пастанавіў пазваніць проста на кватэру містэра Гувера.

— Гаворыць сакратар Трэйнар. У якой справе вы хочаце сустрэцца з дырэктарам?

Даш расказвае і расказвае.

— Гэта нядобры жарт. Ніколі не здаралася так, каб шпіён сам паведамляў пра сябе ў ФБР.

— Выслухайце мяне, — прасіўся Даш.

— Прыходзьце заўтра.

— Заўтра можа быць позна.

Сакратар Трэйнар з некім пашаптаўся і сказаў: — Добра, прыходзьце праз паўгадзіны.

Яго нарэшце прынялі. Ён гаварыў пяць сутак, спаў усяго некалькі гадзін. Верыў, што такім чынам запэўніць сабе кар'еру ў багатай Амерыцы. Аднаго дня газеты выйшлі з велізнымі партрэтамі Даша і ягонай групы. У загалоўках артыкулаў было напісана: «Сенсацыя! Інтэрв'ю з агентамі ФБР, якія выкрылі страшную змову фашыстоўскіх дыверсантаў!!»

Толькі цяпер Даш зразумеў, што яго ашукалі, бы малога хлопчыка: ФБР прыпісала ўсе заслугі сабе. Даша засудзіў ваенны трыбунал на кару смерці. Праўда, прэзідэнт памілаваў і кару смерці замяніў на **трыццаць** год турмы, рэшту немцаў расстралялі.

(а-ся)

## ШТО ДЗЕ ЯК

### Краіна золата і галоднай смерці



**Паўднёва - афрыканская рэспубліка славіцца сваімі багаццямі і крайнім расізмам. Краіна гэтая, малаком і мёдам плывучая, мае свае багацці для невялікай групкі, белых багачоў, а тэрор і нэндзу для большасці радавітых жыхароў краіны — гэта золата і дыяменты, але сотні неграў галадаюць. На вуліцах горада золата — Іаганесбурга — спаткаеш сотні жабракоў.**

**Людзі свету ўсё больш бунтуюцца на парадкі, якія пануюць у Паўднёва - афрыканскай рэспубліцы, асабліва чулыя на гэта афрыканскія краіны і сацыялістычны лагер. Многія краіны ў знак пратэсту парвалі з ПАР дыпламатычныя і гандлёвыя суадносіны. Вольналюбівыя краіны свету на форум ААН дамагаюцца цалкавітай ізаляцыі ПАР. Злосць на групу бессардэчных белых вырадкаў расце і напэўна прыйдзе час здушыць іх.** **(вл)**

## СТО МЕДАЛЯЎ

Многія гледачы бачаць, як спартсмены лёгка пераадольваюць планку на вялікай вышыні, скачуць далёка ў даўжыню, прыгожа і лёгка бегаюць. Наўрад ці ведаюць яны, што за лёгкасцю гэтых рухаў хаваецца сапраўдная тытанічная праца.

Хто не ведае праслаўленай беларускай спартсменкі заслужанага майстра спорту Марыі Іткінай! 14 гадоў у спорце. З іх 10 год яе імя не сыходзіць са старонак сусветнай спартыўнай прэсы. Яна выступае на буйнейшых спаборніцтвах Еўропы і свету. Бронза, серабро, золата, кубкі, прызы з'яўляюцца сведкамі яе перамог.



Тры чэмпіянаты Еўропы. На самым высокім месцы п'едэстала гонару стаяла беларуская спартсмемнка, і велічная мелодыя гімна БССР гучэла над стадыёнамі розных краін.

За 14 год у спорце Марыя Іткіна заваявала каля 100 медаляў.

---

ЮРЫЙ ДОЛБД-МІХАЙЛІК

# БАРОН ФОН ГОЛЬДРЫНГ

*Пасля вайны*

**Ужо на наступны дзень Фрэд пераканаўся, што яго намер азнаёміцца з абстаноўкай, здзейсніць не так лёгка. Як і раней, ён адчуваў сябе вязнем, бо пакой яго замыкаўся, а на прагулцы яго нязменна суправаджаў «інструктар фізкультуры», тып пахмуры і маўклівы. Ні Нунке, ні Шлітсена, ні Воранава Фрэд больш не бачыў.**

**З'явіліся яны нечакана праз тры дні.**

**На гэты раз Нунке не рабіў ніякіх прадмоў. Выгляд у яго быў заклапочаны і сугуба афіцыяльны.**

**— Шлітсен, дайце для азнаямлення карту! — коратка загадаў ён.**

**Намеснік начальніка школы паспешліва дастаў з кішэні два чатырохкутнічкі калькі з нанесеным на ёй рэльефам і падаў іх Фрэду і Гары.**

**«Выходзіць, у мяне будзе напарнік! — пашкадаваў Фрэд. — А ўрэшце, можа гэта лепш, можа з яго я хоць што-небудзь выцягну...»**

**— Даём вам пятнаццаць хвілін для таго, каб вы добра запамяталі ўсе асаблівасці мясцовасці, — суха растлумачыў Шлітсен.**

**Учэпістым позіркам Фрэд упіўся ў пададзеную яму карту, толькі дарэмна ён стараўся здагадацца, дзе быў размешчан гэты невялікі лапік мясцовасці, якую яму прапанавалі вывучыць. Запомніць усе яе асаблівасці было не так ужо цяжка: вялікая паляна, акружаная з поўначы і захаду лесам; з усходу на паўднёвы захад цякла безымянная рэчка; з паўднёвага ўсходу на поўнач пралягала шасейная дарога; там, дзе шасэ перасякае рэчку, — мост.**



**Для вывучэння ўсіх зробленых на карце адзнак занадта многа было і трох мінут, аднак Фрэд не спяшаўся вярнуць свой кавалачак калькі Шлітсену. Не трэба апераджаць Гары, каб той не падумаў, быццам ён, Фрэд, хоча вылезці ўперад. Бач, як старанна ён вывучае сваю карту, нават вуснамі варушыць! Так, з Гары трэба падтрымліваць найлепшыя ўзаемаадносіны, ён малодшы за іншых, таму яго лягчэй будзе выклікаць на шчырасць... Але ж што ж ўсё-такі яны надумалі? Можа, звычайная вучэбная трывога? Чаму ж тады, у час мінулай сустрэчы, Нунке пачаў размову пра нейкую асаблівую важнасць задання? Вайны зараз няма, значыць, маецца на ўвазе не ваенная аперацыя. Дыверсія? Наўрад ці адважацца паслаць з такой мэтай навічка. А можа гэта яго хрышчэнне, прысвячэнне ў «рыцара»?**

**Роздум Фрэда перапыніў голас Шлітсена.**

**— Пятнаццаць мінут прайшло! — загадаў ён.**

**Гары і Фрэд, як па камандзе вярнулі карты.**

**— Вы ўпэўнены, што ўсё добра запамяталі?**

**Абодва сцвярджальна кіўнулі галавой.**

**— Тады прыступім да галоўнага, — урачыста пачаў Нунке, — зараз вы, Фрэд, і вы, Гары, атрымаеце заданне, якое павінны выканаць любой цаной. Сутнасць яго заключаецца вось у чым: у сілу раду прычын вам даручаецца ўзарваць у паветра адзін мост... Шлітсен, павярніце на некалькі мінут карты! А вы, калі ласка, уважліва прасачыце за ходам распрацаванай аперацыі. Мы вас скінем на парашутах у лес, абазначаны на карце з поўначы. Там ёсць зручная для прызямлення, праўда, невялічкая паляна. Пасля прызямлення старанна схавайце парашуты, месца замаскіруйце і асцярожна прасоўвайцеся на поўдзень. Ад пункту высадкі да паўднёвага ўзлесся — тры кіламетры. Вы іх хутка пераадолееце, і, калі выйдзеце на самае ўзлессе, метраў за пяцьдзесят, убачыце мост і рэчку. На мосце ў свой час была ахова, цяпер, паводле нашых звестак, яе знялі, але не выключана, што зноў могуць паставіць. Тут прыйдзецца арыентавацца на месцы. Незалежна ад таго, вы павінны ўзарваць яго ў паветра. Для гэтага будзеце мець дзве міны з гадзіннікавым механізмам. Калі аперацыя пройдзе ўдала, да ночы перабудзеце ў лесе, разлічыўшы так, каб роўна а чвэрці на чацвёртую быць паблізу месца прызямлення. Адтуль вас забярэ гэлікоптэр... Калі ўзнікнуць ускладненні, ні ў якім разе ў рукі чырвоных жывымі не трапляць. Лепш смерць, чым палон!**



**Нунке, напэўна, не адзін раз даводзілася навучаць агентаў, пасланых на выкананне падобных заданняў, бо гаварыў ён з аднастайнасцю дзяка, які бубніць малітву.**

**Стараючыся змякчыць уражанне ад апошніх слоў свайго шэфа, Шлітсен рашыў умяшацца ў размову:**

**— Няхай гэтая перасцярога паважанага гера Нунке вас не палохае. Яна зроблена, так сказаць, для парадку. Мы ж усе цалкам упэўнены ў поспеху. Я ручаюся, што вернецеся здаровымі і ў добрым настроі, разлічваючы на добрую ўзнагароду, якая вас чакае... Вас можа здзівіць месца, выбранае намі для пасадкі гелікоптэра. Мы вырашылі пасадзіць яго на той самай паляне, дзе вы і прызямліліся. Тут мы ўлічваем псіхалагічны момант: менш за ўсё вас будуць адшукваць у аколіцах узарванага ў паветра моста. Шныпрыць будуць, дзе хочаш, толькі не там, адкуль, паводле іх логікі, дыверсанты павінны ўцякаць як мага далей...**

**— Звычайна, — падтрымаў Воранаў, — са сваёй практыкі...**

**— Прабачце, але часу ў нас у абрэз, — спыніў яго Шлітсен, паглядаючы на гадзіннік. — У нашым распараджэнні засталося 57 мінут. Зараз вас абодвух правядуць у цэкгауз — пераапрануцца, узяць зброю, міны і ўсё патрэбнае. Старшым прызначаю Фрэда. Пытанні будуць?**

**— Дазвольце! — Гары відавочна хваляваўся. — А калі гелікоптэр па якіх-небудзь прычынах нас не падбярэ? Што ў такім разе нам рабіць?**





 

